Леанід Лыч

# Змаганне за беларускую мову – змаганне за выратаванне беларускага народа

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Я адмыслова не спыняюся на тым, што казалі на сесіі нашы празаікі ды паэты, бо і так зразумела, што ўсе яны, як сапраўдныя рыцары, вымушаны былі ваяваць ды ваявалі за беларускую мову. Мяркую, кожны з іх падпісаўся б пад сказаным Старшынём Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, пісьменнікам Іванам Навуменкам: "... гаварыць пра дзве дзяржаўныя мовы ў Беларусі – гэта значыць знішчыць мову беларускую, таму што руская мова квітнее і ... будзе квітнець. Бо зараз беларуская мова ў занепадзе".

Зразумела, дэпутаты не маглі абысці ўвагай і дзяржаўнага двухмоўя. Бальшыня катэгарычна выказалася супраць яго. Навукова абгрунтаваў погляд на гэтую праблему рэктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Леанід Кісялеўскі: "...дзяржаўнай мовай павінна быць мова карэннага насельніцтва, што цалкам адпавядае сусветнай практыцы. Дзяржаўны полілінгвізм існуе толькі ў тых краінах, дзе склаўся тэрытарыяльны падзел рознамоўных груп насельніцтва. У нашай рэспубліцы такога падзелу няма. Дзяржаўнасць беларускай мовы зробіць беларуска-рускае двухмоўе ў рэспубліцы сапраўды сіметрычным, а не перакошаным у бок тае ці іншае мовы, бо ва ўмовах, калі носьбітам аднае мовы з'яўляецца толькі народ аднае рэспублікі, а носьбітамі другое - дадаткова дзесяткі мільёнаў людзей прылеглых тэрыторыяў, з якімі падтрымліваюцца моцныя эканамічныя, культурныя, палітычныя сувязі, першая мова сама сабою не здолее канкураваць, і гэта ёсць адною з прычынаў тае сітуацыі, што склалася ў Беларусі. Гэтай мове неабходная спецыяльна прадугледжаная падтрымка. Такой гарантаванаю падтрымкаю і павінен стаць статус дзяржаўнай беларускай мовы".

Вельмі лаканічным, але пераканаўчым было папярэджанне міністра народнай адукацыі БССР Міхаіла Дзямчука аб шкодзе дзяржаўнага двухмоўя: "Наданне рускай мове статусу дзяржаўнай практычна не мяняе становішча з беларускай мовай. Як больш магутная, руская мова, атрымаўшы роўны статус з нацыянальнай, канчаткова пераважыць над мовай беларускай".

Але ў дзяржаўнага двухмоўя былі і прыхільнікі, праўда, у меншыні. Розныя прычыны тлумачаць такую пазіцыю дэпутатаў: абыякавасць да беларускай мовы і нават згода на яе поўнае выцясненне з грамадскага жыцця ў выніку канкурэнцыі з рускай мовай; нежаданне вывучыць беларускую мову, да чаго якраз і абавязвала ўвядзенне яе ў ранг адзінай дзяржаўнай; элементарнае неразуменне таго, што беларуска-рускае дзяржаўнае двухмоўе ў моц канкрэтнай для Беларусі сітуацыі не забяспечыць выжывання яе роднай мовы.

Канстытуцыйнага гарантавання афіцыйнага беларуска-рускага двухмоўя настойліва патрабаваў старшыня выканкаму Мазырскага гарадскога Савета народных дэпутатаў Іван Кенік, якому сваю пазіцыю не ўдалося адстаяць у часе працы ў Камісіі па падрыхтоўцы прапановаў аб заканадаўчым урэгуляванні статусу беларускай, рускай і іншых моваў. Велізарная небяспека яго прапановы вызначалася тым, што мела на мэце вельмі істотнае, у параўнанні з праектам Закону аб мовах. звужэнне беларускай мовы ў сферы адукацыі. Па сутнасці, тут беларускаму слову не давалася аніякае перавагі, наадварот, падкрэслівалася неабходнасць захаваць прыярытэты за рускай мовай, бо нібыта толькі яна мусіць забяспечыць паступленне нашае моладзі ў вышэйшыя ўстановы Расіі.

Пасля працяглых і вострых спрэчак дэпутаты перайшлі да галасавання. Здаровы розум перамог: за прыняцце праекта Закона аб мовах у Беларускай ССР прагаласавала 382 чалавекі, супраць – 27, устрымалася – 9. Пасля абвяшчэння вынікаў галасавання залу аглушылі моцныя апладысменты, дэпутаты абдымалі адзін аднаго ды цалаваліся. Некаторыя ад вялікае радасці не хавалі слёзаў. Такі ж узнёслы настрой апанаваў і шмат каго з запрошаных гасцей. Панурылі галовы толькі тыя, каму не ўдалося працягнуць у Закон дзяржаўнае двухмоўе, паставіць лёс народнае адукацыі ў простую залежнасць ад волі моцна зрусіфікаваных, дэнацыяналізаваных ідэалагічнымі службамі партыі бацькоў дзетак з цвёрдаю ўпэўненасцю, што гэта некалі выцісне з яе ўсё беларускае, у тым ліку мову, прыняце поўную перамогу рускаму элементу.

Такім чынам здзейснілася найвелізарная падзея ў жыцці беларускага народа, якую, без усялякага перабольшання, можна параўнаць з сапраўдным цудам. Маючы жаданне гэты цуд не так ужо і цяжка было зрабіць рэальнасцю. Вызначаныя ў Законе тэрміны дзеля забяспячэння беларускай мове фактычнага статусу дзяржаўнай у розных сферах грамадскага жыцця былі зусім прымальныя. Улічваючы высокую ступень русіфікацыі беларускага народа, у выніку якой многія людзі глядзелі на сваё роднае слова, як на нешта вельмі далёкае і чужое, непатрэбнае, тэмпы беларусізацыі ўсяго службовага справаводства, педагагічны працэс агульнаадукацыйных школ, прафесійна-тэхнічных вучылішчаў, тэхнікумаў, інстытутаў (універсітэтаў) былі ў два-тры разы большымі, чым гэта прадугледжвалася для аждыццяўлення такога роду адраджэнцкіх мерапрыемстваў у перыяд беларусізацыі 20-х гадоў.

З тэрмінамі ажыццяўлення Закона аб мовах пагаджалася ўсё беларускае грамадства. Супроць іх зрэдку выступалі толькі асобы, якія арганічна не прымалі высакароднай ідэі беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння.

Давала станоўчую адзнаку і публічна выказвала гатоўнасць выкарыстаць увесь свой патэнцыял дзеля пераваўсаблення Закона аб мовах у жыццё Камуністычная партыя Беларусі, хаць яшчэ зусім нядаўна, на сваім кастрычніцкім пленуме 1989 года, першая ў рэспубліцы партыйная асоба Яфрэм Сакалоў, каб стрымаць масавы рух народа за ўвядзенне беларускай мовы ў грамадскае жыццё, заяўляў, што гэта будзе мець вельмі цяжкія наступствы: адмоўна адаб'ецца на навукова-тэхнічным і духоўным прагрэсе, непазбежна прывядзе "да паслаблення сувязяў паміж народамі нашай Айчыны (відаць, аўтар меў на ўвазе СССР. - Л.Л.), ускладнення міжнацыянальных стасункаў". Паведамлялася таксама пра неабходнасць працяглай псіхалагічнай падрыхтоўкі "грамадскай думкі да моўных праблем" ( *Звязда*. 19.10.1989г.) Карацей кажучы, камуністы з вышэйшых колаў маглі б бясконца адтэрміноўваць час вяртання беларускай мовы на сваё законнае месца ў родным краі.

Зусім інакш загаварылі тыя камуністы, у тым ліку і сам Я.Сакалоў, пасля юрыдычнага надання беларускай мове дзяржаўнага статусу. У яго дакладзе на чэрвеньскім (1990г.) пленуме прагучала: "Зняццю напружанасці, што накоплівалася ў духоўнай сферы рэспублікі на працягу 60-80-х гадоў, садзейнічала прыняцце ў студзені гэтага года Закона аб мовах у Беларускай ССР. Гэты заканадаўчы акт надаў новы імпульс працэсам развіцця нацыянальнай самасвядомасці, абнаўлення духоўнага жыцця". Зусім справядліва на пленуме заяўлялася, што Закон аб мовах - гэта "толькі першы крок да адраджэння нацыянальнай культуры". Выказвалася гатоўнасць партыі да "распрацоўкі і прыняцця навукова абгрунтаванай, матэрыяльна і тэхнічна падмацаванай канцэпцыі развіцця нацыянальнай культуры на бліжэйшую і аддаленую перспектыву". (*Звязда*, 25.07.1990г.). Такіх канкрэтных і ў аснове сваё ўзважаных. дзейсных функцыяў па забеспячэнні нармальнага культурна-моўнага развіцця беларускай мовы партыя бальшавікоў ніколі не брала на сябе ў часе ўсяго перыяду 30-80-х гадоў XX стагоддзя.

Выходзячы з таго, што з боку шматлікіх партыйных і савецкіх супрацоўнікаў, іншых катэгорыяў чыноўнікаў з страшэнна размытай нацыянальнай свядомасцю, амаль поўнай адарванасцю ад спрадвечных для нашай зямлі культурна-моўных каштоўнасцяў будзе аказваць адкрытае і патаемнае супраціўленне Закону аб мовах, нацыянальна-свядомыя колы інтэлігенцыі пачалі распрацоўваць шэраг дзейсных мерапрыемстваў дзеля яго няўхільнай рэалізацыі. У створаную камісію, якую ўзначаліла намесніца старшыні Савета міністраў БССР Ніна Мазай, уваходзіла 44 чалавекі. Складзены імі дакумент атрымаў назву "Дзяржаўная праграма развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моваў у Беларускай ССР" і быў зацверджаны пастановай Савета Міністраў БССР 20 верасня 1990 года. Так чарговаму нацыянальна-культурнаму адраджэнню Беларусі, асяродкам якога з'яўляецца мова, быў нададзены ў сапраўдным сэнсе слова дзяржаўны характар. Пачалася напружаная, разлічаная на дзесяць гадоў праца дзеля ўратавання беларускай мовы ад знішчэння, якое дагэтуль рэальна ёй пагражала, у паступовым насычэнні яе сацыяльным функцыямі, як таго патрабаваў статус адзінай у Беларусі дзяржаўнай мовы. Першыя вынікі сведчылі, што развязанне гэтай вельмі актуальнай для беларускага народа праблемы цалкам падуладнага яго здаровым, нацыянальна-свядомым сілам.

Вялікай заслугаю нашых палітыкаў дый інтэлектуалаў, што ў моц свайго прафесійнага абавязку ці праз заклік сэрца актыўна далучыліся да рэалізацыі самага прафесійнага ў гісторыі Савецкай Беларусі Закона аб мовах, сталася правільнае вызначэнне імі ролі народнае адукацыі ў адраджэнні беларускай мовы і ўвядзенні яе на дзяржаўны п'едэстал. Пытанне нацыянальнае адукацыі стала галоўным, стрыжневым у дзейнасці ўсіх грамадскіх рухаў, што актыўна сталі на шлях беларускага Адраджэння.

З усіх цяжкасцяў, што перашкаджалі стварэнню сапраўднай нацыянальнай сістэмы адукацыі, найбольш сур'ёзнай з'яўлялася надзвычай высокая ступень русіфікацыі тых асобаў, якія займалі тут далёка не шараговую пасаду. Хапала іх і сярод настаўнікаў, вучоных-педагогаў. Калі толькі дазваляла сітуацыя, яны ўсяляк імкнуліся сарваць выкананне тае часткі Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў Беларускай ССР", што датычыла народнай адукацыі. Але сярод людзей названых прафесіяў было і нямала асобаў, што займалі супрацьлеглую пазіцыю ў гэтым пытанні. Менавіта дзякуючы ім і ў аснове сваёй прыхільнаму стаўленню народа да беларусізацыі сферы адукацыі ўжо ў першыя гады пасля прыняцця Закона аб мовах у гэтае галіне былі дасягнутыя пазітыўныя зрухі. Адчувалася, што, нягледзячы на глыбокую эрозію прыроднага духоўнага патэнцыялу беларускага народа, у яго захаваліся і сілы, і жаданне для свайго нацыянальна-культурнага адраджэння.

Самы высокі пік у беларусізацыі агульнаадукацыйнай школы быў дасягнуты ў 1993/1994 навучальным годзе. Датычыла гэта ўсіх тэрытарыяльна-адміністратыўных адзінак краіны, а, перадусім, галоўнай з іх – Менска. Бадай упершыню за ўсю сваю гісторыю ён пачаў самую юную катэгорыю жыхароў -першакласнікаў узгадоўваць не на чужых, а на ўласных нацыянальных культурна-моўных каштоўнасцях. У тым навучальным годзе з агульнай колькасці дзяцей Менску, што прыйшлі ў першыя класы, па-беларуску стала вучыцца 58,6%. У Брэсцкай вобласці гэты паказчык склаў 79,7%, у Віцебскай - 65,5, Гомельскай - 75,7, Гродзенскай - 87,5, Менскай 92,6 (рэкорд па краіне), Магілёўскай - 72,8%. У наступным навучальным годзе ўзяты для разгляду паказчык быў павялічаны толькі ў Гомельскай вобласці.

Несумненна, дасягненне гэтых станоўчых зрухаў у часе пераводу агульнаадукацыйнай школы на нацыянальны падмурак ёсць вялікаю заслугай міністраў адукацыі Рэспублікі Беларусь Міхаіла Дзямчука (1988-1994) і Віктара Гайсёнка (1994-1995), а таксама падначаленага ім апарату. Яго кіраўнікі разам з міністрамі часта сустракаліся з адпаведнымі грамадскімі коламі, адкрыта і пераканаўча даводзячы, якім чынам ажыццяўляецца дзяржаўная моўная палітыка ў галіне адукацыі, якія ёсць цяжкасці ў гэтым кірунку. З цікавымі і каштоўнымі з метадалагічных меркаванняў публікацыямі выступалі яны і ў друку. Але ж нягледзячы на ўсе высілкі адданых беларускай нацыянальнай ідэі кіруючых і шараговых супрацоўнікаў сферы адукацыі ды іншых прагрэсіўных сілаў грамадства краіны, з 1994/95 навучальнага года далей справа з беларусізацыяй агульаадукацыйнай школы не пайшла. Падставаў тут некалькі, але найбольш істотная з іх - палітычныя змены ў Рэспубліцы Беларусь, што мелі за мэту спыніць працэсы яе нацыянальна-культурнага адраджэння і аднавіць у ёй колішнія пазіцыі рускага элементу, што, як разлічвалася, мусіла дапамагчы палітычнай інтэграцыі Беларусі з Расіяй.

Моцны зрух новае ўлады ад нацыянальна-дзяржаўнай ідэі ў супрацьлеглы бок адразу ж быў заўважаны непрыхільна, а то і варожа настроенымі да беларускай справы людзьмі. Яны сталі самымі паважанымі наведнікамі для афіцыйных сродкаў масавай інфармацыі і ў шчыльным хаўрусе вялі спачатку прыхаваную, а затым і адкрытую падрыўную дзейнасць супроць заваёваў грамадскасці ў справе беларусізацыі агульнаадукацыйных школ. Здабыць пры надзейнай падтрымцы ўладаў перамогу над ёй аказалася для праціўнікаў Адраджэння не такой ужо і складанай задачай.

За ходам баталій дзяржавы з адраджэнскімі сіламі на ніве народнай асветы вельмі ўважліва сачылі бацькі, дзеці якіх наведвалі школу. Палітыкі і паслухмяная ім частка інтэлігенцыі не сумняваліся, што яны знойдуць такую неабходную для іх падтрымку з боку бацькоў. Многія былі ў вялікай роспачы, што іх дзеці паспелі ўжо скончыць тры-чатыры класы беларускамоўнай школы, а сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установаў з беларускай мовай навучання як не было пяць гадоў таму, так няма і зараз. Ствараецца ўражанне, што адпаведныя дзяржаўныя структуры і кіраўнікі народнай адукацыі напачатку асабліва не супраціўляліся беларусізацыі агульнаадукацыйных школаў, але ўсяляк стрымлівалі гэты працэс у тэхнікумах і ВНУ толькі таму, каб больш пераканаўча паказаць бацькам бесперспектыўнасць беларускамоўнага школьнага навучання. Адна справа, калі незадаволенасць такой палітыкай выказваецца 5-10-ю тысячамі бацькоў, і зусім іншая, калі над бесперспектыўнасцю беларускамоўнае адукацыі для лёсу сваіх дзетак пачынаюць задумвацца сотні тысячаў чалавек. Паколькі афіцыйныя сродкі масавае адукацыі знаходзіліся ў руках дзяржавы, а не нацыянальна-дэмакратычных сілаў, яна ўсю сваю моц скіравала не на тое, каб людзі пачалі выступаць за ўмацаванне роднае мовы карэннага насельніцтва краіны ў навучальна-выхаваўчы працэс ВНУ ды тэхнікумаў, што якраз адпавядала б нормам прыстойнага цывілізаванага жыцця, а. наадварот, як толькі магла нацкоўвала масы супроць пераводаў рускіх школаў і класаў у беларускамоўныя.





Леанід Лыч

# Змаганне за беларускую мову – змаганне за выратаванне беларускага народа

Разумеючы, што ў прагрэсіўных колах грамадства не стае моцы, каб прымусіць дзяржаву адмовіцца ад далейшага працягу палітыкі русіфікацыі народнай адукацыі і не жадаючы з чыста прагматычных мэтаў узгадоўваць дзетак у мове, якая свядома выціснутая афіцыйнымі ўладамі з усіх сфераў грамадскага жыцця, а галоўнае – з аўдыторыяў вышэйшых ды сярэдніх спецыяльных навучальных установаў, шмат хто з бацькоў, прычым часта з самай непасрэднай агітацыі настаўнікаў, сталі выступаць, насуперак здароваму сэнсу, супроць беларускамоўнага навучання, вяртаць сваіх дзетак у рускія школы. Усяго гэтага не назіралася б, калі б у першыя дватры гады пасля набыцця Беларуссю статусу дзяржаўнае незалежнасці ўдалося стварыць хоць бы адзін-два нацыянальныя універсітэты. А такая магчымасць існавала. І тагачасныя дзяржаўныя дзеячы, кіраўнікі народнае адукацыі нацыянальнае арыентацыі павінны прызнаць сваю віну за прамаруджванне ў вырашэнні гэтага пытання. Калі б тым часам у нас вызначыліся пазітыўныя зрухі ў развіцці нацыянальнай вышэйшай ды сярэдняй спецыяльнай школы аніякія палітычныя сілы не наважыліся б. як гэта атрымалася ў траўні 1995 году, на правядзенне моўнага рэферэндуму, бо ў такіх варунках яго можна было б выйграць толькі з дапамогаю самае грубае фальсіфікацыі.

Акрамя занядбання праблемай нацыянальнай вышэйшай ды сярэдняй спецыяльнай школы, спрыяльную глебу для правядзення ў траўні 1995 году моўнага рэферэндуму мы падрыхтавалі яшчэ і тым, што не забяспечылі належнага месца дэмакратычным сілам у афіцыйных і незалежных сродках масавай інфармацыі. На такім вельмі адказным і значным месцы ў змаганні за нацыянальна-культурнае Адраджэнне гэтыя сілы суадносіліся з дзяржаўнымі структурамі як немаўля з атлетычна складзеным дзецюком. Гэтая неадпаведнасць адраджэнскіх і супроць адраджэнскіх сілаў у магчымасці праз СМІ ўплываць на настрой і паводзіны людзей выявілася ўжо на першым годзе пасля прыняцця Закона аб мовах і Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускае мовы ды іншых моваў у Рэспубліцы Беларусь. Супраціў іх ажыццяўленню на практыцы аказвалі нават калектывы рэдакцыяў беларускамоўных газет. І гэтую катэгорыю творчай інтэлігенцыі нацяжка зразумець. Яна, мо як ніякая іншая, была выхаваная на бальшавіцкай ідэалогіі, дзесяцігоддзямі працавала – не выключаючы і занятых у беларускамоўным друку – на камуністычную ідэю зліцця культур ды моваў. Не вызначаліся сваёй беларускасцю й маладыя генерацыі журналістаў, дзе мы павінны бачыць "заслугу" адпаведных навучальных установаў свае ды іншых саюзных рэспублік. Існаванне шэрагу беларускамоўных газетаў і часопісаў забяспечвалася толькі цвёрдай устаноўкай ЦК КПБ, які вызначаў, колькі іх павінна выходзіць па-беларуску і па-руску. Цяпер ужо такой устаноўкі не трымаліся, таму ўсе, каму ў цяжар было беларускае слова, імкнуліся пазбегнуць яго на сваіх старонках. Зайздросную ініцыятыву ў гэтым выявілі ў 1990 годзе заснавальнікі абласных беларускамоўных газетаў "Віцебскі рабочы", "Мінская праўда" ды шэрагу раённых, што прасілі дадаткова зарэгістраваць мовай выдання і рускую, а таксама беларуска-рускамоўнага "Вячэрняга Мінску", дзе пажадалі толькі раз на тыдзень выпускаць газету на абедзвюх мовах, а ўсе астатнія дні – толькі на рускай. Цалкам праігнаравалі сфармуляваны ў Дзяржаўнай праграме развіцця беларускай мовы пункт аб мэтазгоднасці пераводу з рускай мовы выдання на беларускую ўсіх раённых і абласных газетаў (выходзілі яны на рускай мове пераважна ў заходняй частцы Беларусі як найменш зрусіфікаванай), рэспубліканскіх газетаў "Сельская газета" і "Физкультурник Белоруссии", часопіса "Сельское хозяйство Белоруссии". Усё гэта стала магчымым дзякуючы таму, што сярод тагачасных палітыкаў, якія займаліся пытаннямі нацыянальна-культурнага і моўнага развіцця ў краіне, было шмат уплывовых асобаў прарускай арыентацыі, якія за мінулымі часамі вельмі зацята працавалі на справу русіфікацыі беларускага народа.

Не спалі ў шапку і шэраговыя журналісты, што моцна супраціўляліся пераводу газетаў ды часопісаў з рускай мовы на беларускую. З гэтай нагоды яны арганізоўвалі адпаведнага кшталту інтэрвію з аўтарытэтнымі (але ж не ў справе ведаў этналінгвістычнае праблемы) асобамі, якія не вызначаліся пашанай да беларускага слова ды не валодалі ім. Цалкам можна дапусціць, што ад знаёмства з такімі матэрыяламі ў многіх, хто пасля летаргічнага сну толькі-толькі пацягнуўся да роднага слова, яно ўжо магло і не падаваць такім патрэбным, дарагім.

Як лёгка было трапіць на старонкі газетаў ды часопісаў, у радыёэфір ды на тэлебачанне асобам з антыбеларускамоўным кірункам, гэтаксама цяжка, а то і зусім немагчыма было патрапіць туды тым, хто самааддана служыў ідэі нацыянальна-культурнага адраджэння дарагой і любай Бацькаўшчыны. Будучы адмежаванымі ад усіх афіцыйных СМІ "кітайскім мурам", мы апынуліся не ў стане ідэалагічна забяспечыць выкананне Закона аб мовах. У часе яго – няхай сабе і вельмі маруднага – выканання ўсё больш і больш узнікала патрэба ў тэарэтычным абгрунтаванні пройдзенага шляху, вызначэнні новых першачарговых задач, азнаямленні з імі шырокіх народных плыняў, аднак на ўсіх падыходах да яго былі надзейна перакінутыя шматлікія шлагбаўмы. Патэнцыйныя магчымасці даводзіць насельніцтву шчырую праўду па моўнай праблеме да рэшты не выкарыстоўвалі і рэдакцыі газетаў "Наша слова", "Свабода", "Літаратура і мастацтва", не кажучы ўжо пра такія дзяржаўныя беларускамоўныя выданні як "Звязда", "Чырвоная змена", "Настаўніцкая газета".

Вельмі ўжо нам не пашчасціла тым часам на фундатараў ды мецэнатаў. А традыцыі ж у Беларусі ў гэтай справе найбагацейшыя. Дастаткова прыгадаць, што менавіта з дапамогаю фундатараў выдавалі свае кнігі Францішак Скарына ды Сымон Будны. Затое зараз у шуфлядах нашай творчае інтэлігенцыі захоўваюцца дзясяткі найкаштоўных рукапісаў, якія не могуць пабачыць свету толькі з-за адсутнасці сродкаў на іх выданне, а дзяржава, як і ў самыя цяжкія, трагічныя часы нашае гісторыі, зноў займаецца русіфікацыяй, таму і выдаткоўваць грошы на літаратуру такога кшталту не збіраецца. Менавіта з прычыны нашае беднасці мы не мелі дый не маем зараз сур'ёзнай нацыянальнай газеты ці часопіса, дзе падаваліся б не смажаныя факты з мэтай забеспячэння большага накладу ды атрымання прыстойнага прыбытку, а з нумару ў нумар вялася б грунтоўная размова пра нашыя надзённыя адраджэнскія праблемы, бо толькі такім чынам народу можна вярнуць гістарычную памяць, далучыць да роднае культуры і мовы, зрабіць яго актыўным барацьбітом за нацыянальныя інтарэсы.

Сёння, калі з кожным днём узрастае пагроза суверэнітэту Беларусі, калі працягваецца шалёная руская культурна-моўная асіміляцыя карэннага насельніцтва нашае краіны, мы павінны вельмі добра ведаць і не таіць ад самых сябе свае ўласныя памылкі і недахопы. На вялікі жаль, не ўхілілася ад іх і Таварыства беларускай мовы. Напачатку яго дзейнасці тут працавала шмат таленавітых, шчыра адданых нацыянальнае ідэі людзей. Затым бальшыня з іх пайшла ў вялікую палітыку. І гэта вельмі правільны крок. Але нам неадкладна трэба было на іх месцы ўвесці ў склад Сакратарыяту ТБМ зусім новых асобаў, што пайшло б толькі на карысць агульнай справе.

Не думаю, што Беларускі народны фронт "Адраджэнне" дамогся вялікага выйгрышу ад таго, што сваёй актыўнай ды самаахвярнай палітычнай дзейнасцю незаслужана згарнуў выкананне культурнай праграмы, у якое было шмат карыснага і прагрэсіўнага.

Не знайшлося ў нас людзей, якія б палічылі сваім святым абавязкам згрупаваць ды павесці ўпартае змаганне за ўвасабленне ў жыццё тых прагрэсіўных ідэяў, што былі сфармуляваныя ў Законе аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь і ў Законе аб культуры ў Рэспубліцы Беларусь. Іх выкананне не знайшло такой істотнае падтрымкі ў грамадстве як Закон аб мовах. Не лішнім будзе патлумачыць, які вялікі выйгрыш атрымала б наша агульная справа, калі б і ў тых законаў мелася шырокае кола шчырых змагароў. Праблемы мовы, адукацыі і культуры мусяць быць паспяхова развязанымі толькі ў комплексе.

З шэрагу галоўных прычынаў, што не даюць як след набраць моцы беларускаму нацыянальна-культурнаму Адраджэнню, бадай адно з першых месцаў займае адсутнасць у нас свае незалежнай нацыянальнай царквы. Яшчэ больш чым паўтары стагоддзі таму з дапамогай свецкіх уладаў пануючай верай на тэрыторыі сучаснае Беларусі стала праваслаўная царква. Такою яна ёсць і зараз. Але ж гэтая царква з прыроды свае была і застаецца з'явай цалкам рускай. Прычым не толькі ў набажэнстве, але і ва ўсіх сферах свае дзейнасці. Гэта выявілася адразу ж пасля далучэння беларускіх земляў да Расійскае імперыі ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітае. Вядомы ў нашае гісторыі маэстра русіфікацыі, куратар Віленскай навучальнай акругі Іван Карнілаў (1864 - 1868) параіў створанай паводле распараджэння віленскага генерал-губернатара Міхаіла Мураўёва спецыяльнай "Камісіі па русіфікацыі Заходняга краю": "Калі жадаеце, каб рускі народ з заходніх правінцыяў (так у афіцыйных колах тады называлі беларусаў – Л. Л.) меў цягу на ўсход, распаўсюджвайце праваслаўе". І да яго голасу прыслухаліся.

На вялікае шчасце мне не спатрэбілася спецыяльна шукаць фактаў для абвінавачвання праваслаўнае царквы ў русіфікацыі беларускага народу. Гэтую справу выдатна выканалі самі рускія даследнікі. У дарэвалюцыйнага рускага прафесара П. Кавалеўскага чытаем: "Адарваная ад Польшчы Беларусь і літоўскія губерні былі далучаныя да Расіі, але далёка яшчэ не замацаваныя. Руская ўлада пайшла ў кірунку абрусення праз увод рускай мовы і рускай школы. Бясспрэчна, гэта два вельмі значныя ды магутныя чыннікі. Але яшчэ больш моцным чыннікам з'яўляецца вера". Дарэчы, напісана гэта было ў 1912 годзе. Паводле меркаванняў рускага гісторыка больш позняга часу Мікалая Зарнова, які глыбока вывучаў узнятую мною праблему, праваслаўная царква Расіі "з'яўлялася сімвалам русіфікацыі і крыніцаю ўціску мовы ды веры мясцовага насельніцтва".

Падобныя погляды на рускае праваслаўе мелі і беларускія даследнікі гісторыі рэлігіі. Дзеля прыкладу абмяжуюся толькі цытатай з публікацыі Льва Гарошкі (1911 - 1977): "Агулам прыходзіцца сцвердзіць, што ва ўсіх русіфікатарскіх мерапрыемствах расейскага ўраду Праваслаўная Царква ня толькі што нічога не рабіла ў абароне беларусаў ... але, наадварот, праводзіла ўсе русіфікатарскія мерапрыемствы як сваю найгалаўнейшую місію..."

І ўсё ж шмат каму з нашых сучаснікаў, адраджэнцаў канца 80-х – пачатку 90-х гадоў, верылася, што гэтым разам праваслаўе не будзе займацца разбурэннем прыроднага духоўнага патэнцыялу беларускага народа, публічна прызнае сваю віну за шматгадовую русіфікацыю яго і зробіць важкі ўнёсак у нацыянальна-культурнае адраджэнне вельмі адметнага сярод агульнай славянскай супольнасці народа. На жаль, гэтага не адбылося. Як і сто гадоў таму, праваслаўная царква ўсіх сваіх вернікаў у Беларусі называе "рускімі", у набажэнствах выкарыстоўвае рускую ды царкоўнаславянскую мовы, на рускай мове ажыццяўляе культурна-асветніцкую дзейнасць у прыходах і праз СМІ, падпарадкоўваецца патрыярхату суседняй дзяржавы – Расіі, ды ў дадатак да ўсяго ачольваецца асобай рускай нацыянальнасці, якая не з'яўляецца носьбітам беларускай культуры і мовы. Што значыць рускі ідэал для сучаснай праваслаўнай царквы ў Беларусі, добра зразумела з выказвання архіепіскапа Магілёўскага і Мсціслаўскага Максіма (між іншым, ураджэнца Башкірыі): "Наша зямля – Расія, у поўным сэнсе гэтага слова. Бо расіянамі мусяць быць і беларусы, і ўкраінцы, г. зн. усе славянскія народы. Гэта і ёсць Расія, з усімі іншымі народамі, што яе насяляюць". Спадзявацца, што такая праваслаўная царква здольная далучыцца да ідэі беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння, могуць толькі людзі, пазбаўленыя нават самых элементарных ведаў пра гісторыю ды сучасны стан гэтай канфесіі ў нашым краі.

Шкадую, вельмі шкадую, што ад афіцыйнай, самай масавай ў нас царквы не чую таго, што некалі прагучала ў "Вялікодным вітанні Ізяслава, мітрапаліта, першаерарха Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы", што месціцца ў амерыканскім горадзе Брукліне:"Усе беларусы мусяць усвядоміць, што існаванне нашае нацыі немагчыма без нацыянальнай царквы. Гэткаю нацыянальнаю, незалежнаю звонку царквою не можа быць ніякая чужынская юрысдыкцыя, а толькі Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква". Шэраг краінаў мае такія цэрквы, якія цалкам улічваюць інтарэсы карэнных народаў.

Не знайшоў я ў праваслаўных святароў нічога падобнага да таго, што аднойчы прачытаў у звароце да беларускага народа міністра (прапаведніка) Беларускага Евангелічнага Рэфармацыйнага Збору Міколы Бабрусёва: "... калі беларусы пачнуць у царкве маліцца, прапаведваць ды спяваць гімны Нябеснаму Айцу па-беларуску, тады адродзіцца і Народ". Калі паважліва ставіцца да беларускае справы, зрабіць гэта зусім не складана. Аднак жа, нашая самая шматлікая паводле колькасці вернікаў канфесія - праваслаўная не наважваецца на такі гуманны ўчынак, бо рускую ідэю ставіць вышэй за беларускую. І ўсё ж вельмі радуе, што нягледзячы на нечувана высокую для ўсіх часоў нашае гісторыі ступень рускай культурнамоўнае асіміляцыі беларускага народу, моцны супраціў уладаў нацыянальна-культурнаму адраджэнню беларусаў, адсутнасць фінансавых сродкаў для такога адраджэння, істотныя памылкі ў дзейнасці розных грамадска-палітычных ды культурна-асветніцкіх рухаў, шырокія колы людзей самых розных пакаленняў і сацыяльнага стану за першыя пяць гадоў, як быў прыняты Закон аб мовах, на практыцы даказалі, што яны цалкам падрыхтаваныя рашуча змагацца з усім тым, што вядзе да іх этнічнага знішчэння. Выяўленае ў тым часе шчырае і моцнае жаданне народа заставацца самабытным, адметным ад іншых, дае падставы спадзявацца, што пры адпаведнае працы грамадска-палітычных ды культурна-асветніцкіх рухаў сучаснае нацыянальна-культурнае Адраджэнне будзе мець рэальную перспектыву. Для Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны няма больш ганаровае ды святое справы, як нястомна ды самааддана працаваць на гэтую перспектыву. Толькі штодзённай, стваральнай працай, насуперак усялякім перашкодам нашых незычліўцаў, можна зберагчы беларускі этнас ад канчатковай рускай культурна-моўнае асіміляцыі, вывесці яго на шырокі прасцяг прыстойнага духоўнага развіцця ды забяспечыць ганаровае месца ў сусветнай цывілізацыі.

*(Даклад тэзісна прачытаны 26.01.2000 г. у Менску ў Чырвоным касцёле на ўрачыстасцях, прысвечаных 10-м угодкам прыняцця "Закона аб мовах у Беларускай ССР".)*





# Праца па стварэнні Беларускага Нацыянальнага Універсітэта працягваецца

12 студзеня 2000 года ў Сядзібе ТБМ, што на Румянцава, 13 у Менску, адбылося чарговае паседжанне ініцыятыўнай групы па стварэнні Беларускага Нацыянальнага Універсітэта. Апошнім месяцам да ініцыятыўнай групы далучыліся яшчэ 10 выкладчыкаў з розных ВНУ Менска ды Бярэсця. Сярод іх эканамісты, юрысты, лінгвісты, географы і нават прадстаўнік такое рэдкае прафесіі як дэмограф.

Гэтым разам была створана група з пяці чалавек, якое даручана цягам месяцу падрыхтаваць ды распаўсюдзіць праз СМІ "Канцэпцыю БНУ" як новай беларускай навучальнай установы еўрапейскага тыпу. Канцэпцыя мусіць складацца з кароткае гісторыі стварэння нацыянальнай вышэйшай адукацыі ў Беларусі, у ёй мусібыць таксама абгрунтаваная неабходнасць стварэння ў краіне універсітэта новага тыпу ды выкладзеныя прынцыпы існавання і структура. Галоўнай мэтай БНУ ёсць падрыхтоўка кадраў беларускае эліты для дзяржаўных ды навукова-даследчых установаў Беларусі.

На паседжанні таксама разглядалася канцэпцыя стварэння прыродазнаўчага факультэта, што была распрацаваная акадэмікам Радзімам Гарэцкім разам з дацэнтам БДУ Міхасём Нагорным. Згодна прапанаванае канцэпцыі факультэт будзе мець два аддзяленні: біялагічнае ды геолага-геаграфічнае. Пры тым вялікае значэнне надаецца такой дысцыпліне як дэмаграфія, бо зараз ніводная ВНУ ў Беларусі не мае кафедры дэмаграфіі ў свае структуры. Бальшыня прысутных таксама выказалася супраць ліквідацыі Міністэрствам адукацыі такой гуманітарнай дысцыпліны як "беларусазнаўства", якую прысутныя палічылі неабходнаю для ўсіх негуманітарных ВНУ і асабліва тэхнікумаў.

*Старшыня ГА ТБМ імя Ф.Скарыны*
*Алег Трусаў.*

## ШАНОЎНЫЯ СТАРШЫНІ РАДАЎ
### Таварыства беларускай мовы!

**Як Вам вядома, адукацыйнай камісіяй ТБМ праводзіцца работа па стварэнні Беларускага Нацыянальнага Універсітэта, а таксама па аднаўленні і адкрыцці беларускамоўных плыняў у ВНУ, якія ўжо існуюць.**

**У працэсе падрыхтоўкі да гэтай важнай справы істотную ролю іграе стварэнне базы дадзеных пра выкладчыкаў ВНУ, якія выкладаюць ці маглі б выкладаць свой прадмет па-беларуску.**

**, Спадзяёмся на Вашу дапамогу ў гэтай справе. Просім падаваць звесткі пра беларускамоўных выкладчыкаў па адрас: 220005, Менск, вул.Румянцава, 13, Адукацыйная камісія Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.**

# Прэзентацыя "Дзесяці вякоў ..."

25 студзеня у вялікай зале бібліятэкі імя Я.Купалы адбылася прэзентацыя выйшаўшай з друку кнігі "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі". зарганізаванай "беларускім калегіюмам" пры інфармацыйнай падтрымцы кніжнага клуба ТБМ.

На сустрэчу з аўтарамі Ул. Арловым і Ген. Сагановічам прыйшло столькі народу, што, на жаль, не ўсе жадаючыя здолелі патрапіць.

На пачатку імпрэзы выступаў Ул. Арлоў, ён назваў сябе літаратарам які займаецца гісторыяй, цытаваў занатаваныя ім выказванні вядомых людзей па беларускай і сусветнай гісторыі, прачытаў свой аўтабіяграфічны верш.

Пасля абодва гісторыкі адказвалі на пытанні, якіх было шмат. Напрыклад, ці варта нам вяртаць свой ранейшы назоў "Літва"? На што прагучаў адказ, што памятаць пра гэта патрэбна, але адмаўляцца ад назова "Беларусь" не варта, гэты назоў зараз з'яўляецца кансалідавальным для нашай нацыі, калі зараз пачнём вяртаць свой ранейшы, можам загубіць, што маем.

Уладзіміру Арлову задалі пытанне. якія на вашу думку 3-ы самых значных падзеі ў гісторыі Беларусі. Ён адказаў, першае гэта надрукаванне у 1517 г. Францішкам Скарыным Бібліі, другое абвяшчэнне ў 1918 г. БНР, а трэцяе наперадзе. Таксама Уладзімір Арлоў паказаў прысутным сігнальны асобнік кнігі "Таямніцы полацкай гісторыі"–які хутка ўбачыць свет.

Генадзю Сагановічу задалі такое пытанне, ці будзе перавыдадзена яго кніга "Невядомая вайна" на рускай мове. на што ён адказаў, што ўсё утыкаецца. на жаль, толькі ў грошы.

Дарэчы, можа ў каго з чытачоў ёсць магчымасць і жаданне знайсці сродкі на фінансаванне такога праекту?

Пасля сустрэчы была немалая чарга на кнігу і па аўтографы аўтараў.

Па словах старшыні Таварыства спадара Алега Трусава, такую сустрэчу варта паўтарыць яшчэ.

*Алесь Гурыновіч.*

# А заўтра будзе грып

Такім чынам, час "Э" прызначаны – паводле рашэння Міністэрства аховы здароўя наступіў. З 27 студзеня **афіцыйна** пачалася эпідэмія грыпу. Насельнікі краіны, як ніколі, рыхтаваліся да сустрэчы з небяспечнаю хваробай – у аптэках зніклі ўсе супрацьвірусовыя лекі ды мазі. За два тыдні студзеня прадалі антыгрыпакапсу ды інтэферону ўдвая больш, як за ўвесь мінулагодні эпідэмічны тэрмін. Зніклі нават вітаміны айчыннай вытворчасці.

Адна мая знаёмая стала сведкаю невялікае сваркі ў аптэцы, калі наведніца пыталася пра полівітамінны комплекс "Вітус М", дарэчы, наш, беларускі. Але аптэкарка толькі паспачувала ды прапанавала замест вітамінаў каляровую ўлётку, што паведамляла пра карысць ды эфектыўнасць тых самых вітамінаў "Вітус М". Але ж не прапануеш пакупніку ўлётку замест вітамінаў!

Як высветлілася, дэфіцыт полівітамінных комплексаў "Вітус М", "Асілачак М" ("Крепыш М"), "Гравітус" ды "ААК-селен" атрымаўся з-за таго. што ў сувязі з непаразуменнямі вакол ПДВ БелРВП "Фармацыя" своечасова не набыла гэтыя вітаміны для аптэкаў, а старыя прыпасы скончыліся яшчэ летась. Аднак, здаецца, сітуацыя выправілася, і бліжэйшым часам кожны зноў здолее набыць гэты надзвычай эфектыўны сродак для прафілактыкі грыпу. На жаль, можа і са спазненнем. А вядома, што ўсё добра ў пару, як і вітаміны да пачатку эпідэміі, а не напрыканцы яе.

Як лічаць спецыялісты, полівітаміны – найлепшы сродак для мацавання арганізму ды стварэння абароны супраць вірусаў. Бо вітаміны ўдзельнічаюць ва ўсіх працэсах, што вядуць да утварэння ў арганізме рэчываў, якія маюць супрацьвірусовае дзеянне ды здольныя вынішчыць вірус. А яшчэ вітаміны з мінераламі ўмацоўваюць імунную сістэму арганізму. Таму дактары раяць ужываць полівітамінна-мінеральны комплекс штодня. І тады ніякі грып вас не закране. А нават калі вы ўсё ж захварэеце, то хвароба хутка праміне ды не выкліча аніякіх ускладненняў.

*Аксана Пенкрат.*

# Тэатральныя скрыжаванні



Такую назву атрымаў першы Рэспубліканскі фестываль аматарскага тэатральнага мастацтва, які прайшоў у Слуцку. З двухсот аматарскіх тэатраў рэспублікі на фестываль былі запрошаны дзесяць калектываў з Віцебска, Барысава, Лепеля, Берасця, Ваўкавыска і Баранавічаў. Гасцямі фестывалю былі тэатральныя калектывы з Днепрапятроўска і летувіскага горада Кельмі.

На здымку: спектакль "Прышэсце" паводле рамана Ул. Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", які прывёз тэатр "Відарыс" з Барысава. Фота Яўгена Казюлі, БелТА.

# Франтавы футбол

У студзені адбыўся футбольны турнір на прызы газэты "Obbside", арганізаваны барысаўскім БНФ і мясцовым Маладым Фронтам – "Барысавічамі".

У турніры ўдзельнічалі каманды з Барысава - Волат-І, Волат-ІІ, з Печаў, з Менска - Малады Фронт, з Жодзіна – БЗМ "Ліцвіны" - клуб Форвард і іншыя. Паводле папярэдняй дамоўленасці планавалася праводзіць турнір у спортзале школы, за гэта ўжо была заплачана арэндная плата, але адміністрацыя перад пачаткам спаборніцтва нечакана адмовіла ў памяшканні спаслаўшыся на аварыю электрасетак. Арганізатары звярнуліся ў ЖКХ і арганізацыю гарадскіх электрасетак. Як аказалася, ні пра якія паломкі там і не чулі. Таксама не далі праводзіць спартовае мерапрыемства на школьным стадыёне. У выніку нашы футбалісты зрабілі шматкіламетровы марш-кідок за горад і турнір быў праведзены ў адкрытым полі на снезе ў барысаўскім прыгарадзе Дымкі. Турнір адбываўся два дні, пад бел-чырвона-белымі сцягамі ў цяжкіх умовах, але з вялікім уздымам. Дарэчы, калі прааналізаваць статыстыку нацыянальнага спорту, лёгка заўважыць, што са зменай нашага нацыянальнага сцяга на савецкі рэзка знізіліся і паказчыкі. Тут зразумела за што змагацца.

У выніку 1-е месца заняла барысаўская каманда "Волат", 2-е месца – каманда "Печы" і 3-е – каманда Менскага Маладога Фронту.

Удзельнікі каманд пераможцаў атрымалі каштоўныя прызы і адмысловыя дыпломы ад газеты "Obbside".

Як стала вядома, грошы за арэнду спортзалы "лукавая" школьная адміністрацыя пакуль што не вярнула.

*Алесь Гурыновіч.*

# Вынікі абласной алімпіяды

З 3 па 5 студзеня 2000 г. у Горадні праходзіла абласная алімпіяда школьнікаў 9, 10, 11 класаў па беларускай мове. Для ўзнагарод каштоўнымі падарункамі і сувенірамі ўпраўленне адукацыі вялікіх сродкаў не мае і да гэтай справы далучылася абласное Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

Па нашай просьбе Рэспубліканскае ТБМ выдзеліла кнігі. 38 пераможцам і прызёрам акрамя грамат і сувеніраў былі ўручаны ад нас кнігі.

Хочацца адзначыць, хто перамог на гэтай алімпіядзе:

**Занялі першае месца:**

- Рыбік Алена IX клас СШ №" г.п. Астравец (настаўніца Саковіч В.І.).
- Шырна Вольга X клас гімназія № 1 г.Ліда (настаўніца Бохан Л.І.).
- Бохан Аляксандра X клас гімназія № 1 г.Ліда (настаўніца Бохан Л.І.).
- Шаблінская Надзея XI клас СШ № 1 г.п.Астравец (настаўніца Шаблінская Я.К.).
- Кавалёва Алена XI клас СШ № 26 г. Гродна (настаўніца Васілевіч Н.А.).

**Другое месца:**

- Місюк Наталля IX клас Гудзевіцкай СШ Мастоўскага р-на (настаўніца Славута Н.Л.).
- Лапіцкая Юля IX клас СШ № 1 г. Масты (настаўніца Болбат Н.М.).
- Казлова Ларыса IX клас Партызанкаўская СШ Слонімскага р-на (настаўніца Казлова С.А.).
- Шэйна Надзея X клас СШ № 7 г. Ваўкавыск (настаўніца Рудзецкая І.А.).
- Парфёнава Таццяна XI клас СШ № 5 г. Гродна (настаўніца Казлоўская Г.С.).
- Жамойціна Вольга XI клас гімназія № 4 г. Смаргонь (настаўніца Гурская Л.Я.).

**Трэцяе месца:**

- Гурневіч Кацярына IX клас СШ № 1 г.п. Дзятлава (настаўніца Абрамчык Н.М.).
- Талкун Анастасія IX клас гімназія № 4 г.Смаргонь (настаўніца Рудая Г.Я.).
- Папко Юлія IX клас гімназія № 1 г. Ліда (настаўніца Шот М.К.).
- Шубко Ульяна IX клас СШ № 26 г. Гродна (настаўніца Качан Т.У.).
- Янкута Ганна IX клас Сш № 26 г. Гродна (настаўніца Качан Т.У.).
- Ніканенка Сяргей X клас гімназія №1 г. Ліда (настаўніца Бохан Л.І.).
- Сігай Юля X клас СШ № 2 г. Ваўкавыск (настаўніца Зуева А.А.).
- Ламанік Людміла X клас СШ № 14 г. Гродна (настаўніца Кандратовіч В.І.)
- Бяленік Алеся X клас СШ № 26 г. Гродна (настаўніца Арцюх А.Ф.).
- Мандзік Вераніка X клас Гудзевіцкай СШ Мастоўскага р-на (настаўніца Гедрэвіч В.Ф.)
- Дрожджа Юля X клас СШ № 2 г. Шчучын (настаўніца Гусак М.В.).
- Міхно Ірына XI клас СШ № 1 г.п. Астравец (настаўніца Шаблінская Я.К.).
- Корбаль Юля XI клас СШ № 4 г. Навагрудак (настаўніца Шынтар А.М.).
- Філон Вольга XI клас Касцянёўская СШ Слонімскага р-на (настаўніца Міхальчык А.І.).
- Гранюк Вольга XI клас Іўеўская СШ (настаўніца Жыдзень А.М.).
- Вынпіш Сняжана XI клас СШ № 26 г. Гродна (настаўніца Васілевіч Д.З.).

Сфармавана каманда з 23 вучняў для ўдзелу ў XVI Рэспубліканскай алімпіядзе па беларускай мове, якая пройдзе ў сакавіку 2000 г. у г. Віцебску.

*Місюкевіч А.І.*

# Літаратурная старонка "Нашага слова"

Канстанцін Усовіч

## Што для нас беларуская мова

Светлай памяці майго роднага, татачкі
Сяргея Уласавіча прысвячаю

Народ яе вякамі ўдасканальваў і галубіў,
Усю сваю душу і розум у яе ўкладаў.
Таму ўберажыце гэты скарб ад згубы –
Сплаў нашых сціплых думак,
светлых мар, вялікіх спраў.

Цягаюць нашы людзі клункі,
Ды ў іх не кнігі і не словы – нешта так.
Арэчаўляе ж мова нашы думкі,
Збірае нашы сілы ў адзін кулак.

Сваё багацце не губляйце, усё збярыце,
І не спажыўшы, не кідайце анідзе.
Найперш ад беларускай мовы ўсё бярыце,
Якая штосекундна робіць з нас людзей.

У рускай мове беларусаў ёсць і нашы словы,
Бо ў іх працуе й беларускай мовы час.
Чаго мы вартыя без нашай мовы?
Так, без яе травінкай стане кожны з нас.

У тых хто крыўдзіць нашу мову, - мізарнеюць душы,
А мне здаецца, што пусцее ўсё ў мяне
Без мовы ні навука, ні цягнік не зрушыць,
Ніводзін самалёт у неба не рване.

Без мовы кнігі ні адной не будзе,
А тыя, што ўжо ёсць – бяссільны хлам.
Любіце, даражыце роднай мовай, людзі,
Бо аддае яна сябе без рэшты нам.

Магчымасцяў у ёй бязмежна, незлічона,
Мы без яе рабіць не можам, гаварыць.
У лёс наш уплялася яна стужкай пазлачонай,
Агнём у люты холад нам гарыць.

Яна наш рухавік у космасу прасторы,
Яна нас у стагоддзяў тоўшчу завядзе,
Надзея наша і падтрымка ў любым горы,
Выратавальны пояс у жыцця вадзе.

Яна прыводзіць думкі, усё жыццё ў парадак,
Да лепшага жыцця магутна нас вядзе.
Яна найлепшая, важнейшая прылада,
З мільёнаў тых, якімі карыстаемся штодзень.

Павінна працаваць яна на поўну сілу,
І ў працы паляпшацца, яшчэ больш расці,
Рабіць каханую для нас яшчэ больш мілай,
Быць нашым Сцягам, Сэнсам у жыцці.

Для нас яна мазгі, і сэрца,
Усе мы без яе, - як не заведзены матор.
Зважайце, мова ў жыццё праравецца,
Яна аззяе Беларусі ўсёй прастор!

Народ яе вякамі ўдасканальваў і галубіў,
Усю душу сваю ён у яе ўкладаў.
Уберажыце гэты скарб ад згубы –
Сплаў нашых сціплых думак,
светлых мар, вялікіх спраў.

*г.Гомель.*

Уладзімір Малец

## " Беларусь –Чачня – Свабода !"

Імперцаў зграя рве кавалкі
Свабоды, сонца на жыўца –
Гарматы, самалёты, танкі –
Да "пераможнага" канца!

Баявікі не склалі зброю! –
Касьцьмі палягуць, не складуць!
І зразумела нам з табою,
Што родны край свой не здадуць.

Не задушыць там дух Свабоды!
Не затаптаць памкненняў шлях!
Шчыльней, гуртуюцца народы!
Гукаюць кліч свой у прасцяг!

Што ж, беларусы, будзе з намі ! –
Ці будзе нам свая зямля!
Ці сціснуць горла нам зубамі
Ваўкі, што выюць з-пад Крамля!

Мой родны край! Не вянь, як ружа!
О! Сінявокая Зямля!
Ты, мабыць, моцна занядужаў?! –
Мо СНІДу прыхапіў з Крамля??

Ці, можа, слоў не разумееш? –
Зазамбавалі маскалі ?
Здаецца, моцна ты хварэеш! –
Не тыя лекі мо', увялі?!

І як лячыць тваю хваробу?
Якія зёлкі прапісаць?
Дык ведай, што сваю свабоду
Ты можаш толькі сам узяць!

Дык досыць спаць, стань, здрыгніся!
І водар волі хлебані!
Глянь, - навальніцы пачаліся! –
Гарaць там вольнасці агні!

Там знойдзеш колер сваёй волі!
Чырвона – белы, нават, ёсць!
Ты-гаспадар адвечнай долі
І на зямлі сваёй – не госць!

Няўжо навалу не здалееш?!
Ці мо' адкінуў бягункі?
Чаму так хутка ты хілееш? –
Ці быць свабодным не з рукі?

Прачніся! Хопіць спаць! Дый годзе! –
У дрымоце волю не знайсці!
І ў расейскім карагодзе
Вянок санетаў не сплясці!

*г. Ліда.*

## СЛОЎЦА

Слоўца-крывіначка,
Слоўца-нязводнае,
Цнота расіначкі,
Доля гаротная.

Ты і скалечана,
Ты і знявечана,
Позірк пытальны,
Крывавыя плечыкі.

Вылечыць, выправіць,
Выхадзіць, выстраіць,
Вычысціць, выкраіць,
Поскудзь ўсю вытравіць.

Лёгенька-лёгенька,
Ласкава-ласкава,
Слоўца да слоўца
Песняй і казкаю.

Зруб нам з вяночкаў
Пакласці габлёваных,
Сказам, радочкам,
Вясёлкай малёваных.

Сонейка-сонейка,
Рэчанька-рэчанька,
Выратуй слоўца
Нам і палепшае.

Возьмем на рукі
Бурштынаваны кропелькі,
Смакам рызыначкі
Кожнае. Колькі іх!

Нанава вынасім,
Нанава выснуем,
Слоўца ты існае
Будзь крамяністым.

*Аляксей Чубат.*

(Верш-урывак з паэмы):

## БЕЛАРУСЬ

Між палёў і лугоў,
Між бязмежных лясоў
Устае Беларуссю зямля,
Ад блакітных нябёс
Мірны вецер прынёс
Чысты край, то Радзіма мая.

Край прыгожых, бязмежна багатых лясоў
І крынічка з халоднай вадой,
Край напоўнены чыстым паветрам лугоў,
Зззяннем, радасцю і вышынёй.

У бусляніцы клякоча бусліна сям'я,
Жуpавель над раллёю курлыча з жалля,
Ад жаўранка песні спявае зямля,
Чысты край, то Радзіма мая.

Статны зубр – беларускай зямлі валадар,
Шэры заяц праскоквае поле і гай,
Хуткі лось абмярае палеткі свае,
Ва ўсім свеце няма лепш Радзімы мае.

Дзік капае пад дубам жалуд.
Парасяты лычамі паўторкліся ў бруд,
Узімку воўк ад сумоты літанні пяе,
Ва ўсім свеце няма лепш Радзімы мае.

Зашуміць з цёплым ветрам бярозавы гай,
На зямлю беларускую спусціцца май,
Прынясе ён з сабою ўсе кветкі свае,
Ва ўсім свеце няма лепш Радзімы мае.

На бязмежных лугах зашумяць каласы.
Коршак вып'е з дубовага лісту расы,
Дужэюць малых жабянят галасы,
Няма лепш беларускай Радзімы красы.

*Максім Шаронаў, Салігорск.*

## СВЯТЫНІ

Стаіць Нясвіжскі замак
З абшарпанымі сценамі.
Жуе заўсёдны ранак
Сваімі пераменамі.

То трэшчыны з'явіліся,
То нечакана дах пацёк.
Напэўна мы змірыліся,
Што гэта, як шынок.

Навошта нам той помнік здаўся?
Навошта нам яго муры?
Навошта каб турыст пужаўся,
Убачыўшы яго з гары?

Каму патрэбен гэты замак?
Каму патрэбен лёс яго?
Што адарваць і вынесці за ганак?
У нас тут клопату ўсяго.

А трэба беларусам знаць,
І бедным, і багатым,
Што нельга помнік захаваць,
Яго разносячы па хатах.

Мы ўсе павінны захаваць
Святыні нашы родныя,
Каб не прыйшлося шкадаваць,
Што ранкі ўсе самотныя.

*Землякоў Ігар.*

## АГЛЯД ВОСЕНІ

Ідуць дажджы, гуляе вецер,
Зямля мякчэе пад нагой.
Я змены, мабыць, усе прыкмеціў,
Блукаўшы ў лесе раніцой.

Вакол усе дрэвы ў пазалоце,
Трава пажоўкла, сціх наш лес,
Куды ні глянеш.
Можа ўсё ў самоце,
Ці вецер гэта нам прынёс?

Бяроза лісце паскідала,
Адрокшыся сваіх сыноў.
Зямля нядаўна сумавала,
Згубіўшы поле каласоў.

Усе грыбы ў лясах сабраны,
І вытаптаны сцежкі ўсе даўно.
Апошні жураўліны крык,
які адданы,
Ледзь чуцен, ці чуцён, усё адно.

А вецер дрэвы так гайдае,
Што гнуцца, быццам бы крукі.
І лісце плаўна асядае.
На люстру восеньскай ракі.

*Землякоў Ігар.*

Антончык Аляксандр

## РОДНАЯ МОВА

Родная мова багацце бясцэннае,
Словы – бліскучыя, нібы алмазы,
Мы сеем іх, быццам бы тое насенне,
Каб выраслі з іх звонкія фразы.

Бог яе даў нам усім у падарунак
Каб між жыцця кругаверці
Радасцю і клопатам людзі дзяліліся
Ад нараджэння да смерці.

Яна пачынаецца з плачу дзіцяці
Турбот з якім дужа багата
А ўзнагародай гукнецца па хаце:
"Мама, бабулечка, тата".

Выраслі дзеці сталі дарослымі
Розны ў іх кожнага лёс.
Адны прынесяць радасць і шчасц'е
Другія пакуты й шмат слёз.

Адныя з іх стаўшыя людзьмі вучонымі
На ўвесь родны край знакамітымі
Дзеляцца роднымі словамі
Гранкамі дум самавітымі.

Артысты ж, паэты, пісьменнікі важныя,
А з ім і людзі, менш знатныя
Сыплюць таксама ў мовы скарбонку
Роздумаў творы выдатныя.

Нават апошні сквапнюга пражыўшы
Жыццё, як жабрак, без расстрат
З радасцю байкі і жарты знаёмым
Дорыць, як сябра ці брат.

Род каб прадоўжваць, жэніцца моладзь,
Гуляе вяселлі народ.
Песні жар-птушкамі мчаць па прыволлі
Ідуць пажаданні ў ход.

Звязвае сэрцы каханых прызнаннем
У вечнай любві пара слоў,
Знікнуць яны, а разам з імі і павага,
І ад холаду згіне любоў.

А адспявае ўсе песні людзіна,
У свет іншы дух яго мчыцца.
Чуць водаль па ямах й каменях нясе
Нашчадкаў, жыцця калясніца.

Уперадзе вера, надзея, любоў,
Што складваюць лёсу аснову
Асвечваюць шлях ёй у цемры вякоў,
Узяўшы ліхтаром сваю мову.

Так беражыце святы той ліхтар
Паўсюль і заўжды, беларусы,
Бо без яго вам бязлікімі быць,
Як тым жа яцьвягам ці прусам.

Нашчадкі не ўспомняць, хто вы і адкуль,
Не знаючы мовы дзядоў.
А гонар ваш і слава пакрыюцца пылам
І знікнуць без усялякіх слядоў.

Мікола Бутовіч

* * *

Абрус вышываны.
Вітыя свечкі.
Сурвэткі ў колцах.
Стол накрыты, шляхецкі.

Прыгажуня ялінка
Зіхаціцца ўся, ззяе.
Калядная зорка
Ёй верх аздабляе.

Чароўны гадзіннік
Дванаццаць адліча.
Шампанскага корак
Столь паказыча.

Бакалы сыйдуцца
Ў звону крышталю.
За Новы Рок!
За цябе Беларусь!
Тост узнімаю.

*Наваполацк.*

## ЗЯМЕЛЬКА МАЯ

Пясочак, лясочак –
Зямелька мая.
Балоты, пагоркі,
Азёры, палі.

І корміш, і поіш
З маленства мяне.
Як да роднай матулі
Прынік да цябе.

Твае краявіды,
Прасторы твае
І сэрца хвалююць,
І вабяць к сабе.

На гэтай зямельцы
Жыву, не журусь.
Завецца старонка мая –
БЕЛАРУСЬ.

*Лявон Нарачанскі.*



№ 5 (442) 2 ЛЮТАГА 2000 г.

# ДУХОЎНАЯ СТАРОНКА

*Наша мова для нас святая,*
*Бо яна нам ад Бога даная…*
*Францішак Багушэвіч.*

Яўген Бондараў, Андрэй Вайцяховіч, Ларыса Доўнар, Таццяна Дзем'яновіч, Алег Трусаў

## ДАСЛЕДАВАННЕ СТАРАЖЫТНЫХ МОГІЛАК ВА ЎРОЧЫШЧЫ КОБАНЬ

Летам і восенню 1999 года навуковая экспедыцыя Беларускага універсітэта культуры (БУК) у складзе дацэнта, кандыдата гістарычных навук Трусава А.А. і студэнтаў кафедры гісторыі і музеезнаўства БУК правялі навуковае даследаванне па абследаванню і вывучэнню сучаснага стану старажытных шляхецкіх могілак ва ўрочышчы Кобань каля вёскі Дудзічы Навапольскага с/с Пухавіцкага раёна.

У навуковай літаратуры былі звесткі, што гэтае месца з'яўляецца старажытным гарадзішчам, пашкоджаным старымі могілкамі. Праўда, археолагі тут ніякіх раскопак не праводзілі і нават не вызна-чылі час існавання так званага гарадзішча.



Герб роду Ельскіх "Пелеш"

Побач з Дудзічамі ў XIX – пачатку XX стагоддзя знаходзіўся маёнтак Замосце, які таксама належаў знакамітаму роду Ельскіх.

Расейская геральдыка засведчыла, што продкі Ельскіх з 1570 года валодалі дараванымі польскімі каралямі нерухомасцю, землямі, шляхецкімі маёнткамі, прывілеямі на чыны, пасады, ордэны. На працягу трох стагоддзяў Ельскія займалі адказныя грамадскія і дзяржаўныя пасады. Вызначыліся Ельскія і ў галіне культуры: Казімір (1782 – 1867) – скульптар, мастацтвазнаўца, прафесар, які ўзначальваў кафедру скульптуры ў Віленскім універсітэце, стварыў шэраг мастацкіх твораў; Канстанцін (1838 – 1896) – натураліст, падарожнік, удзельнік падрыхтоўкі паўстання 1863-64гг.; Міхал (1831 –1904) – скрыпач, кампазітар, музычны пісьменнік, які збіраў і запісваў беларускія народныя мелодыі, выкарыстоўваў іх у сваіх творах, выязджаў з канцэртамі ў Польшчу, Германію; і, нарэшце, Аляксандр (1834 - 1916) - заснавальнік парка, сада, цагельні, вялікі дбальнік сельскай гаспадаркі, які адначасова актыўна займаўся літаратурна-публіцыстычнай дзейнасцю, меў багатую калекцыю кніг і карцін, музей, з'яўляўся сябрам-супрацоўнікам Вольна-эканамічнага таварыства ў Пецярбургу, быў правадзейным сябрам Камісіі гісторыі і мастацтва філалагічнага аддзялення Акадэміі навук у Кракаве.

Сядзіба Ельскага была месцам сустрэч выдатных дзеячоў беларускай культуры: кнігазбор Ельскага быў крыніцай даследавання для вучоных з Кракаўскай акадэміі, з музея Румянцава ў Маскве, Маскоўскага этнаграфічнага таварыства, Асалінэўма. Аляксандр Ельскі напісаў больш 10 тысяч гісторыка-краязнаўчых артыкулаў пра Беларусь для "Геаграфічнага слоўніка Каралеўства Польскага і іншых славянскіх краін", "Вялікай усеагульнай ілюстраванай энцыклапедыі".

Падвіжніцкая культурная і стваральніцкая праца, плённыя навуковыя намаганні Аляксандра Ельскага не толькі былі, але павінны мець і зараз шырокую вядомасць і развіццё.

Зараз маёнткаў Ельскіх у Дудзічах і Замосці не засталося. Ацалелі толькі шыкоўныя прысады з высокіх прыгажунь-лістоўніц. Аднак менскія краязнаўцы разам з нашчадкамі роду Ельскіх знайшлі на закінутых могілках ва ўрочашчы "Кобань" надмагільныя пліты жонкі Аляксандра Ельскага – Алены Каленчынскай, а таксама Клацільды Альскай з роду Манюшкаў.

Даследчыкі сцвярджалі, што на гэтых могілках была пабудавана пахавальня-капліца, дзе і быў пахаваны Аляксандр Ельскі і іншыя яго сваякі.

Таму галоўнай мэтай нашай экспедыцыі было комплекснае вывучэнне ўрочышча "Кобань".

Спачатку мы павінны былі высветліць, ці з'яўляецца урочышча "Кобань" помнікам археалогіі, бо ўзнікла сумненне, што Ельскія, якія добра ведалі археалогію, зробяць свой радавы могільнік на помніку гісторыі і культуры.

У заходняй частцы гарадзішча мы выявілі яму невядомага паходжання глыбінёй каля 1 м. Вырашылі зачысціць яе сценкі, каб выявіць магчымы культурны пласт і яго таўшчыню. Аднак зачыстка ўсіх сценак ямы паказала адсутнасць культурнага пласту, бо адразу пад тонкім слоем гумусу пайшоў буйна жоўты пясок (жвір).

Тады вырашылі зрабіць невялічкую траншэю-прарэзку так званага вала на ўсходнім, самым высокім схіле ўрочышча. Памеры траншэі 0,8 х 1,3 м. Глыбіня – 40 см. Культурнага слою тут таксама няма. Адразу пайшоў некрануты рукой чалавека, моцны зляжалы цёмна-жоўты жвір ледавіковага паходжання.

Таму мы маем права папярэдне сцвярджаць, што археолагі памыліліся, і што ўрочышча "Кобань" не з'яўляецца помнікам археалогіі, і мы маем справу толькі з былымі могілкамі XIX – пачатку XX ст.ст.



Ксёндз Уладзіслаў Завальнюк асвячае адноўленыя могілкі

Жахлівы стан пахаванняў Ельскіх не выклікае здзіўлення, бо мясцовыя жыхары распавядалі пра тое, што раней могілкі ўздоўж і папярок перакапалі ў пошуках золата, якое меркавалі знайсці пад надмагільнымі плітамі Ельскіх. Апагеем гэтага вандалізму быў бульдозер, з дапамогай якога мясцовы механізатар скінуў у выкапаную яму надмагіллі Ельскіх, тым самым аддаўшы даніну варварскаму перыяду нашай гісторыі.

"Помнік" варварскіх адносін на занядбалых могілках, астраўком зялёных ліпаў, дзікага вінаградніку і калючых ружаў, даўно чакаў вяртання людской памяці і шанавання. Перад маладымі даследчыкамі на "Кобані" адкрыліся і невядомыя нашым сучаснікам магільныя пліты бацькоў



Пліта з магілы аднаго з Ельскіх

Аляксандра – Караля Станіслававіча Ельскага (1780 – 1855) і Людвікі са Штэнбергаў Ельскай (1808 – 1881); сястры Станіславы з Ельскіх Грушвіцкай (1828 – 1860); Ізабэлы Ельскай, дачкі Людвіка Ельскага і Клацільды з Манюшкаў (1819 –1896); Вікторыі Вайцаховіч (1840 – 1883). Яшчэ пры жыцці Аляксандра Ельскага ў канцы XIX ст. сюды на "Кобань" у сямейны склеп былі перанесены і парэшткі з крыпты, што мясціліся ў Дудзіцкай царкве, знакамітых шляхецкіх родаў Заранкаў-Гарбоўскіх, Прозараў, Ельскіх, Ліпскіх, Букатага (па меркаванні навукоўцаў – 24 асобы). Тут жа была пахавана і жонка Аляксандра – Алена з Каленчынскіх Ельская (1838 – 1901), а таксама і сам Аляксандр Ельскі (1834 – 1916).

Зараз на могілках сіламі БУКа, калгаса "Світанак", МВК "Дудуткі" і Пухавіцкага райвыканкама праведзены мерапрыемствы па добраўпарадкаванні месца пахавання, падыходаў да яго. Да правядзення навуковай канферэнцыі быў устаноўлены памятны крыж. Гэта можна лічыць толькі пачаткам працы, бо ў чаканні і занядбалае месца пахавання брата Аляксандра – Міхала Ельскага (1831 – 1904), вядомага кампазітара і музыканта, і яго жонкі Марыі з Барановічаў Ельскай (1851 – 1903) у Русінавічах. А па прапанове адных з нашчадкаў Ельскіх, якія зараз жывуць у Польшчы, браты Аляксандр і Міхал, як і іншыя з іх роду, павінны знайсці супакой менавіта на "Кобані", на тым месцы, з якога адкрываюцца краявіды з аднаго боку на колішнюю сядзібу Міхала ў Дудзічах над Пціччу (зараз там вежа вадакачкі, на якой уладкаваліся і жывуць буслы), а з другога – на сядзібу Аляксандра ў Замосці. Там і зараз яшчэ захаваліся алеі, высаджаныя Аляксандрам – адна з лістоўніц, другая – клянова-ліпавая, якія з двух бакоў вялі да знакамітай бібліятэкі і музея старажытнасцяў у доме, пабудаваным яго гаспадаром. Магутныя дрэвы – адзіныя сведкі штодзённага чалавечага жыцця, яго працы, таксама хацелі б адчуць клопат аб іх, як адчуалі ў часы Ельскіх.

І ў такіх мясцінах, у колішняй гармоніі чалавека і прыроды, не маглі не зарадзіцца цудоўныя музычныя творы Караля, Міхала, Аляксандра.

Варта дадаць, што на могільніку ў Кобані растуць некаторыя цікавыя расліны, якія відаць былі пасаджаны тут Ельскімі для аздаблення месца свайго апошняга прытулку. Але гэта тэма асобнай гаворкі.



На могілках да аднаўлення



Нашчадкі роду Ельскіх каля памятнага крыжа

*Уладзімір Арлоў*

# АДКУЛЬ НАШ РОД

*(Працяг)*

## Няспраўджаныя надзеі

Заняўшы беларускія і жамойцкія землі, Напалеон аб'явіў іх вызваленымі ад расейскага прыгнёту і не скупіўся на абяцанні. Не ўсе разумелі, што французскі імператар вёў сваю гульню. Ён марыў пра панаванне над усім светам, а пра лёс таго ці іншага падуладнага яму народа клапаціўся мала.

За абяцанне аднавіць Вялікае княства Літоўскае Напалеон патрабаваў 100-тысячнае войска і велізарную колькасць харчовых прыпасаў для сваёй арміі. Часовы ўрад Княства не быў гаспадаром краіны, а мусіў падпарадкоўвацца французскім камісарам.

Сяляне марна чакалі ад Напалеона адмены прыгоннага права. Замест гэтага ён падпісваў усё новыя і новыя загады пра паборы. Французскія атрады ездзілі па вёсках, пакідаючы за сабою пустыя хлявы і адрыны. Пад выглядам ахвяраванняў салдаты збіралі з кожнага двара па два пуды сена і саломы і па пяць пудоў жыта і аўса. У жніўні Напалеон выдаў указ, па якім яго ВЯлікая армія павінна была атрымаць ад беларускіх губерняў 53 тысячы кароў і 628 тысяч тон збожжа.

Надзеяў на Напалеона заставалася ўсё менш і менш. Сяляне браліся за косы ды сякеры і стваралі партызанскія атрады. Паспяховымі нападамі на французаў праславіліся партызаны з прыдзвінскай вёскі Жарцы. Сялянка Фядора Міронава колькі разоў адважна выпраўлялася ў заняты французамі Полацк і прыносіла адтуль важныя звесткі ў расейскі штаб.

Перад вядомай Барадзінскай бітвай французскі імператар вымушаны быў накіраваць дзесяць тысяч жаўнераў на дапамогу свайму 12-тысячнаму віцебскаму гарнізону, які партызаны трымалі ў аблозе.

## Бясслаўныя ўцёкі

Напалеонаўскаму войску ўдалося заняць Маскву, але разбіць царскія арміі, якімі камандаваў Кутузаў, ён не змог. У кастрычніку французы пачалі адступаць. Неўзабаве расейскія войскі з дапамогай партызанаў выбілі іх з Полацка, Віцебска, Магілёва, Менска ды іншых беларускіх гарадоў.

Недалёка ад Барысава французы з вялікімі стратамі пераправіліся праз раку Бярэзіну. Іх адступленне адступленне ўсё больш нагадвала ўцёкі. Ад магутнай Вялікай арміі засталіся галодныя, абмарожаныя купкі жаўнераў, што панура брылі на захад, туды, адкуль прыйшлі.

У беларускім мястэчку Смаргонь Напалеон пераапрануўся ў чужы мундзір і пад чужым імем пакінуў войска, спяшаючыся ў Парыж. Ён казаў сваім прыдворным, што праз год прывядзе трыста тысяч жаўнераў і ўсё адно паставіць Расею на калені.

Гэтыя планы не здзейсніліся.

Недзе на беларускай зямлі, магчыма на дне аднаго з нашых шматлікіх азёраў, застаўся ляжаць кінуты Напалеонам падчас уцёкаў яго залаты скарб.

***

У 1812 годзе Беларусь страціла мільён жыхароў, кожнага чацвёртага. Адны загінулі ў баях, другія памерлі ад голаду і пошасцяў. Тысячы нашых землякоў, што служылі ў напалеонаўскім войску, мусілі адступіць за мяжу і ваяваць на чужыне за чужыя інтарэсы.

Пасля вайны 1812 года тыя, хто марыў вызваліць Бацькаўшчыну, зразумелі, што трэба разлічваць толькі на ўласныя сілы.

**Пытанні і заданні:**

1. *Чаму для Беларусі вайна з Напалеонам не была Айчыннай?*
2. *Раскажы пра пачатак вайны і першыя бітвы на беларускай зямлі.*
3. *Чаму беларусы ішлі служыць да Напалеона? Колькі нашых землякоў служыла ў яговым войску?*
4. *Якое рашэнне прыняў французскі імператар у Віцебску?*
5. *Чаму беларусы зразумелі, што Напалеону нельга верыць?*
6. *Як нашы продкі помсцілі французам?*
7. *Чым скончыўся напалеонаўскі паход?*
8. *Якія страты прынёс 1812 год Беларусі?*

## Кастусь Каліноўскі

## За нашу і вашу свабоду



ЭМІЛІЯ ПЛЯТЭР (1806-1831)

Вольналюбівы дух паўстанцаў Тадэвуша Касцюшкі і Якуба Ясінскага быў жывы. Як тлее пад попелам гарачае вуголле, так у душах у беларусаў увесь час не патухла нянавісць да царскіх прыгнятальнікаў.

Увесну 1831 года Беларусь услед за Польшчаю зноў паўстала.

Найбольш чынная барацьба разгарнулася ў Ашмянскім, Браслаўскім, Дзісненскім і Віленскім паветах, а таксама ў наваколлі Белавежскай пушчы. Трохтысячны атрад з сялянаў і шляхты ўзяў і некалькі дзён утрымліваў горад Дзісну. На мяжы Віцебшчыны і Віленшчыны паспяхова дзейнічаў атрад на чале з графіняй Эміліяй Плятэр. Гэтай мужнай жанчыне было ўсяго дваццаць пяць гадоў. У мірны час яна збірала беларускія песні і казкі, пісалі вершы, а ў час паўстання за свой гераізм атрымала званне капітана.

Паўстанцы заклікалі лепшых сыноў Расеі разам ваяваць супроць царызму "за нашу і вашу свабоду", але гэты заклік застаўся непачуты.

Царскія войскі задушылі паўстанне. Улады адбіралі ў паўстанцаў маёнткі і дваранскія правы. Быў зачынены Віленскі універсітэт і іншыя навучальныя ўстановы. За тое, што беларускія уніяцкія святары і манахі падтрымлівалі паўстанне, цар загадаў зачыняць іхнія манастыры, якія называў "вражескими крепостями".

Але ўсе гэтыя здзекі не паставілі народ на калені. Праз тры дзесяцігоддзі ён зноў узяўся за зброю. Паўстанцаў вёў на барацьбу сын Беларусі Кастусь Каліноўскі.

## Юнацтва героя

Кастусь Каліноўскі нарадзіўся 2 лютага 1838 года ў вёсцы Мастаўляны недалёка ад Горадні (цяпер гэтая вёска знаходзіцца ў Польшчы) у сям'і небагатага беларускага шляхціца. Спачатку будучы герой вучыўся ў хатняга настаўніка – "дарэктара", а потым у паявтовай вучэльні ў мястэчку Свіслач.

Кастусь вельмі сябраваў са сваім старэйшым братам Віктарам. Той быў студэнтам Маскоўскага універсітэта, добра ведаў гісторыю, якую вывучаў па старадаўніх рукапісах і кнігах. Ад брата Кастусь шмат даведаўся пра слаўнае мінулае Беларусі, пра тыя часы, калі наша зямля была свабоднай. Кастусь ненавідзеў царскую ўладу і прыгоннае права, што трымала ў няволі сялянаў.

Пасля вучэльні Каліноўскі паступіў на юрыдычны факультэт Пецярбургскага універсітэта. З Масквы ў Пецярбург у гэты час пераехаў і брат Віктар. Разам з сябрамі Кастусь і Віктар стварылі падпольны гурток. Яны марылі пра вызваленне Бацькаўшчыны і рыхтаваліся да будучай барацьбы. Кастусь пакляўся прысвяціць гэтай справе ўсё сваё жыццё.

Скончыўшы універсітэт, ён вярнуўся ў родныя мясціны і пачаў дзейнічаць. У Горадні Кастусь заснаваў таемную рэвалюцыйную арганізацыю. Разам з таварышамі ён нястомна ездзіў па наваколлі і рыхтаваў людзей да паўстання.

## "Мужыцкая праўда"

Летам 1862 года ў беларускіх вёсках і мястэчках пачалі знаходзіць невялікія друкаваныя лісткі. Іх можна было разгладзіць на каленях у хвіліны адпачынку проста на полі, а прачытаўшы – лёгка схаваць.

Гэта была першая ў гісторыі беларуская газета – "Мужыцкая праўда".

Прачытаўшы яе назву, пісьменны селянін вадзіў пальцам па радках і здзіўлена адкрываў для сябе, што гэтая газетка сапраўды гаворыць пра мужыцкія клопаты, прычым гаворыць на простай і зразумелай мове.

"Мужыцкую праўду" выдаваў Кастусь Каліноўскі і яго паплечнікі Фелікс Ражанскі і Валеры Урублеўскі. Пад кожным нумары газеты стаяў подпіс – "Яська-гаспадар з-пад Вільні". Гэтым таямнічым Яськам быў Каліноўскі. Ён сам рыхтаваў для газеты артыкулы, сам развозіў яе потым па вёсках, раскідваў на дарогах.

"Мужыцкая праўда" тлумачыла беларусам, як царская ўлада іх падманвае і прыгнятае, як адбірае ў іх не толькі цяжка зробленыя грошы, але і родную мову ды бацькоўскую веру.

У першым нумары Яська-гаспадар пісаў: "Дзецюкі! Цяпер настаў такі час, што мы самі можам пісаць такую праўду справядліву, як Бог на небе. О, загрыміць наша праўда і, як маланка, пераляціць па свеце! Няхай пазнаюць нашы ворагі, што мы можам не толькі карміць сваім хлебам, але яшчэ і вучыць сваёй мужыцкай праўды..."

Усяго выйшла сем нумароў газеты. Апошні пабачыў свет ужо тады, калі на беларускай зямлі грымела паўстанне. Каліноўскі заклікаў сялянаў браць у рукі косы ды вілы і далучацца да тых, хто ўжо б'ецца за вольнасць.



Кастусь Каліноўскі (1838 - 1864)

